Прачытай сам і перадай другому.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою.*
*Якуб КОЛАС*

# Народная Воля

№ 74 (4532)

18 верасня 2020 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт – свабодны.




**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі— чакаем!*

САЛІДАРНАСЦЬ

## Разам і надалей будзем выдаваць «Народную Волю»!

Дзякуючы Вам, шаноўныя чытачы, аддрукаваны пад Масквой і сённяшні нумар "Народнай Волі". Менавіта вашы фінансавыя пералічэнні на банкаўскі рахунак рэдакцыі ідуць на аплату паліграфічных і транспартных паслуг, даюць магчымасць, нягледзячы на амаль ужо месячную блакаду з боку беларускіх улад, без спынення выдаваць "Народную Волю". Шчыра ўдзячны Вам, шаноўныя сябры!

Сёння мы не можам сказаць, калі газета зможа па-ранейшаму тыражавацца ў Мінску, распаўсюджвацца праз шапікі і паштовыя аддзяленні. З-за таго, што спынены розлічны гандаль, рэдакцыя кожны дзень губляе значныя грашовыя паступленні, і гэта ставіць пад пагрозу рэгулярнае выданне "Народнай Волі". Толькі агульнымі намаганнямі, паважаныя чытачы, зможам уратаваць "Народную Волю". А таму ў чарговы раз звяртаемся з просьбай: калі можаце, дапамажыце сваімі ўнёскамі аплачваць выдаткі, звязаныя з друкаваннем газеты за межамі краіны і дастаўкай тыражоў у Мінск.

Нагадваем нашы банкаўскія рэквізіты для пералічэння грошай на падтрымку газеты:

**УНП 100961759**
**р/с BY08 PJCB 3012 0065 3510 0000 0933 в «Приорбанке» ОАО, ЦБУ 113**
**BIC: PJCBBY2X**
**Адрас банка: 220030 г.Мінск, вул. Камсамольская, 13.**

Таксама можна грошы пералічыць праз АРІП. Для гэтага трэба зайсці ў сістэму, выбраць «**СМІ**», потым літару «**Н**» – «**Народная Воля**» – «**Добровольные взносы**» і зрабіць плацеж.

Сёння, як ніколі, у Беларусі павінна гучаць **СЛОВА ПРАЎДЫ**, слова ў абарону правоў людзей, якія хочуць жыць у вольнай краіне, калі ўлады не будуць фальсіфікаваць вынікі галасавання падчас прэзідэнцкіх выбараў, калі вярхэнства закона стане нормай для ўсіх.

***«Народная Воля» – разам з народам!***

***Рэдакцыя.***

ПАД ПРЭСАМ

*Тут мог быць здымак фотакарэспандэнтаў Аляксандра Васюковіча (газета "Новы час") і Уладзіміра Грыдзіна (сайт TUT.BY), якіх суддзі Яўген Пісарэвіч і Марыя Ярохіна абвінавацілі ў парушэнні парадку арганізацыі і правядзення масавых мерапрыемстваў і адправілі на 11 сутак пад арышт.*

## Замах на свабоду слова

Уладзіміра Грыдзіна перавялі за краты ў Жодзіна, Аляксандр Васюковіч застанецца ў няволі на Акрэсціна.

Гэта не першы раз, калі журналісты ў Беларусі атрымліваюць "суткі" за тое, што прафесійна робяць сваю працу. З пачатку выбарчай кампаніі, паводле дадзеных Беларускай асацыяцыі журналістаў, прадстаўнікі СМІ ў Беларусі затрымліваліся больш за 200 разоў. Гэта не што іншае, як замах на свабоду слова, на права грамадзян атрымліваць незаангажаваную інфармацыю.


Суддзя Яўген Пісарэвіч


Суддзя Марыя Ярохіна

РЭЗАЛЮЦЫЯ

## Еўрапарламент не будзе лічыць Лукашэнку прэзідэнтам Беларусі і прапанаваў адпаведныя санкцыі

17 верасня на пасяджэнні сесіі Еўрапарламента дэпутаты прынялі рэзалюцыю аб Беларусі, у якой пацвердзілі, што не прызнаюць вынікаў прэзідэнцкіх выбараў і што пасля заканчэння тэрміну паўнамоцтваў Аляксандра Лукашэнкі Еўрапарламент не будзе лічыць яго прэзідэнтам.

Еўрапарламент прызнаў Каардынацыйную раду «**часовым прадстаўніком народа, які патрабуе дэмакратычных перамен у Беларусі**».

Еўрапарламент рэкамендаваў Еўракамісіі:
- замарозіць трансферы сродкаў Еўрасаюза дзяржаўным і падкантрольным ураду структурам;
- спыніць пазыкі ўраду ад Еўрапейскага інвестыцыйнага банка і ЕББР;
- арганізаваць канферэнцыю донараў для дэмакратычнай Беларусі, на якой будзе разглядацца «шматмільярдны фінансавы пакет» для падтрымкі будучых рэформаў;
- прыпыніць з Беларуссю перамовы аб прыярытэтах еўрапейскага партнёрства;
- павялічыць фінансаванне грамадзянскай супольнасці Беларусі;
- стварыць гуманітарны калідор і спрасціць выдачу віз палітычным уцекачам і тым, хто мае патрэбу ў медыцынскай дапамозе пасля гвалту;
- распрацаваць у Еўропе адмысловую стыпендыяльную праграму для студэнтаў, выключаных з беларускіх ВНУ па палітычных матывах;
- заклікаць не праводзіць у Беларусі частку чэмпіянату свету па хакеі ў 2021 годзе.

Еўрапарламент заклікаў таксама інстытуты Еўрасаюза і ўрады краін ЕС «*вывучыць магчымасць пашырэння санкцыйнага спісу на прадмет уключэння расійскіх грамадзян, якія непасрэдна ўдзельнічаюць у падтрымцы рэжыму Лукашэнкі ў Беларусі*».

За рэзалюцыю прагаласавалі **574** дэпутаты, супраць – **37**, устрымаліся – **82**.

ЧУЛІ?

## Марыі Калеснікавай прад'явілі абвінавачванне

16 верасня следчыя прад'явілі Марыі Калеснікавай абвінавачванне па ч. 3 арт. 361 КК (заклікі да дзеянняў, накіраваных на прычыненне шкоды нацыянальнай бяспецы Рэспублікі Беларусь, учыненыя з выкарыстаннем СМІ і сеткі Інтэрнэт).

Марыя Калеснікава ўтрымліваецца пад вартай у СІЗА ў Жодзіна. Грамадства верыць, што Марыя з гонарам вытрымае ўсе выпрабаванні лёсу.

БЛИЦ-КОММЕНТАРИЙ

## …А значит, режим не собирается меняться

Александр КЛАСКОВСКИЙ



Похоже на то, что никакого диалога со сторонниками перемен Александр Лукашенко вести не собирается. В его картине мира это кучка деструктивных элементов, которых дергают за ниточки иностранные кукловоды во главе с дядей Сэмом. Лукашенко намерен обсуждать контуры новой Конституции с отфильтрованной публикой на Всебелорусском собрании. «*Это будет общенациональный диалог*», – известил он позавчера на встрече с политическим активом страны.

Показательно, кого собрали под видом политического актива: депутатов парламента, в который не пускают оппозицию, чиновников, руководителей государственных СМИ.

Понятно, что ни Светлану Тихановскую из вынужденной эмиграции, ни Марию Колесникову, Павла Северинца, Николая Статкевича из-за решетки, ни даже находящихся на свободе лидеров оппозиционных политических партий на мероприятие не пригласили. Они – вне игры.

В политику вождь готов пускать только тех, кто ему подыгрывает, кто его обслуживает. В принципе, это всё, что нужно знать о специфике белорусского режима.

### Зацементировать систему, подморозить страну

К слову, о партиях. «*Ранее мы не занимались серьезно партийным строительством. Не было запроса на партии*», – отметил Лукашенко. Но если вы думаете, что далее он пообещал либерализацию в этой сфере, то – ага, держите карман шире!

Напомню, что ныне зарегистрировано 15 партий, он сказал: «*Но мы же понимаем, что это не партии. Когда десять из них отклонились от своих уставов, задач и требуют новых выборов. Министру юстиции поручаю тщательно посмотреть на все партии – соответствуют ли они требованиям по численности, структуре, работают ли по своему уставу. Надо провести их перерегистрацию*».

Между тем партии у нас и так не регистрировались с 2000 года. Сейчас же их могут еще и проредить под маркой того, что отклонились от уставов. Понятно, что жертвами в таком случае станут оппозиционные структуры. А уж потом на зачищенной площадке власти могут и поиграть с карманными организациями в некое партийное представительство в парламенте.

Еще Лукашенко отметил, что необходимо совершенствовать избирательное законодательство. Но если вы думаете, что решено внедрить наконец рекомендации БДИПЧ ОБСЕ, то снова жестоко ошибаетесь.

«*На президентских выборах, на прошедших в прошлом году парламентских выборах выявлен целый ряд нестыковок, различных лазеек, которыми пользуются недобросовестные кандидаты и их доверенные лица*», – сказал далее оратор.

Это означает, что избирательное законодательство сделают еще более драконовским. Вероятно, наложат дополнительные ограничения на порядок сбора подписей (во время минувшей кампании этот этап креативно использовал, в частности, харизматичный блогер Сергей Тихановский), предвыборную агитацию (поездки по стране женского трио во главе с Тихановской мощно политизировали белорусов).

Также Лукашенко заявил, что средства массовой информации должны быть проводниками государственной идеологии. При том что идеология как таковой нет – все сводится к апологетике вождя.

Еще он велел подумать «*о повышении статуса членов избирательных комиссий всех уровней*». А именно: «*государство должно надежно защитить их от провокаторов и других агрессивно настроенных людей*».

Ну, вообще-то, все можно решить иначе: пускать в избиркомы оппозицию и прозрачно считать голоса. Тогда у членов комиссий не будет причин улепетывать через черный ход после подведения итогов на участке.

Однако прозрачного подсчета нынешняя власть боится, как черт ладана. Это к вопросу о реальной популярности вождя, которому манифестанты кричат «Уходи!».

### Плюс немножко имитации

Как видим, Лукашенко думает вовсе не о демократизации, а о том, как лучше зацементировать систему, подморозить страну. Хотя приходится делать и некие реверансы.

Он заявил, что есть смысл отработать с обществом давно назревшие вопросы реформирования местного самоуправления. Но программа туманна: «*Как минимум эти органы должны активнее участвовать в решении возникающих вопросов и проблем на местах и проявлять инициативу*».

Однако начнем с того, что самоуправления как такового у нас нет вообще. Местные Советы бесправны, подмяты вертикалью. Реальные же формы самоорганизации граждан, дискомфортные для властей инициативы и вовсе подавляются.

«*Если необходимо, продумайте вопросы вузовского самоуправления, но в пределах разумного*», – сказал Лукашенко. Здесь смысловой акцент – «*в пределах разумного*». То есть дать поиграться в песочнице под суровым надзором администрации.

Или вот еще: мол, на базе конструктивных организаций следует создать местные диалоговые площадки. Опять же, ключевое слово – «*конструктивных*». То есть речь о гонго, карманных структурах.

### Конституция: торопись медленно

И наконец о главном – о новой Конституции. Лукашенко обмолвился, что в ней следует прописать сдержки и противовесы, баланс власти. При этом намерен обсудить новации на Всебелорусском народном собрании.

Однако реальной дискуссии там не может быть по определению. На это имитационное мероприятие в духе съездов КПСС публика отбирается тщательнейшим образом по признаку лояльности. Через это собрание Лукашенко легко проведет ту концепцию Основного закона, которая удобна ему самому. И потом станет козырять, что заручился поддержкой народа.

А вообще, с разработкой новой Конституции он явно не собирается гнать лошадей: «*Когда мы изучим предложения от общественности, разберемся с партийным законодательством, всей партийной системой, доработаем избирательное законодательство, тогда мы все эти моменты будем «сшивать» с конституционной реформой. Но не наоборот*». Короче, когда рак на горе свистнет.

И еще показательная ремарка: «*Наверное, хватит будоражить общество. Следующие президентские выборы – по Конституции. Как определимся, так и будет*».

Если вождь персоналистского режима вздумал употребить эвфемизм «*как определимся*», это означает «*как я определюсь*».

Итак, года два уйдет на разработку и принятие Конституции. После чего, возможно, будет объявлено обнуление президентской каденции и ее начнут отсчитывать заново. Это еще пять лет правления. А может, в Основной закон впишут и семилетний срок. Тогда новые выборы – лет через девять.

*Окончание на 2-й стр.*

ПРИНЦИПИАЛЬНО!

## Олег ГАЙДУКЕВИЧ, председатель Либерально-демократической партии: «Народная Воля» должна печататься и распространяться без всяких запретов»

*Депутат Палаты представителей, руководитель известной партии не поддерживает репрессии в отношении независимой прессы.*

**– Олег Сергеевич, как вы относитесь к тому, что независимые газеты выкинули из Дома печати и из системы распространения, мы вернулись в какое-то пещерное далекое прошлое…**

– Скажу больше: например, я считаю, что в парламенте должна быть аккредитована вся пресса – и государственная, и негосударственная. Это выгодно мне как депутату. Если мы не работаем с прессой, журналисты все равно напишут, но только не так, как мы сказали, а по-своему.

Что касается запрета, то я категорически против! Считаю, что это ни к чему не приведет. Чем больше запрещаешь, тем больше популярности приобретает запрещенный продукт, его все хотят увидеть, купить. Запрещаешь художника или писателя – значит, завтра его прочтут миллионы!

Если тебе что-то не нравится в газете – ответь на публикацию своей конкретной информацией.

А действовать одними запретами – это путь в никуда.

Но другой вопрос, что мы не должны допускать вмешательства извне…

**– Да какое к черту вмешательство извне! Речь сейчас конкретно о «Народной Воле». Где заявление вашей партии о том, что вы требуете вернуть газету в Дом печати и киоски «Белсоюзпечати»?**

– Вот вам мое заявление прямо сейчас, по телефону: все газеты, которые зарегистрированы в нашей стране, в том числе и «Народная Воля», должны свободно выходить и распространяться!

Люди сами должны выбирать, что им читать, а что нет.

В данном случае я выступаю исключительно за свободу слова. И любой журналист на меня в этом вопросе всегда может рассчитывать.

**Марина КОКТЫШ.**

СМОТРИТЕ, КТО УШЕЛ…

## Геннадий Коршунов ищет работу

*Директор Института социологии Национальной академии наук написал заявление об уходе. В директорской должности он продержался чуть больше двух лет. По его словам, это были «два года драйва, энергии и энтузиазма».*

Коршунов был среди тех ученых, которые осудили не только насилие, но и масштабные фальсификации во время президентских выборов. Именно Геннадий Коршунов в интервью «Народной Воле» незадолго до президентских выборов подтвердил, что, по данным апрельских опросов, уровень доверия Александру Лукашенко в столице был всего 24 процента, а Центризбиркому во главе с Лидией Ермошиной доверяли лишь 11,1 процента опрошенных жителей столицы.

Как Геннадий Коршунов комментирует свой уход с должности директора Института социологии?

– *Есть такая сакраментальная фраза «прошу уволить по соглашению сторон»*, – говорит он. – *Первый раз я ее писал, когда на должность директора Института социологии пришел Игорь Котляров. В этом году обстоятельства сложились таким образом, что на этой неделе я опять написал такую фразу…*

*18 сентября 2020 года будет последний для меня день работы в статусе директора Института социологии НАН Беларуси.*

*Очень хочется верить, что мой уход никак не скажется на работе моих любимых академических социологов. И что все идеи, планы, задумки, которые мы создавали вместе, реализуются. Коллеги, друзья, спасибо всем, с кем мы работали вместе!*



*В общем, когда закрываются двери административной работы, открывается простор для научно-исследовательской деятельности.*

*Может, оно и неплохо.*

Что еще хотел сказать: *уже относительно, но пока еще молодой социолог (кандидат наук, доцент) рассмотрит предложения об исследовательской работе в Беларуси.*

Кстати, Геннадий Коршунов – отец четверых детей.

Обязанности директора Института социологии пока временно будет исполнять доктор социологических наук, профессор **Дмитрий Константинович Безнюк**. До недавнего времени он был замом Коршунова.

**Марина КОКТЫШ.**

ОСТРЫЙ УГОЛ

## Давление на стачком ОАО «Беларуськалий»:

*еще двух его представителей 16 сентября отправили под арест, новое задержание 17 сентября*

Суд Солигорского района 16 сентября присудил по 10 суток ареста членам стачкома **Александру Новику** и **Павлу Пучене**. Обоим вменили ст.23.34 КоАП – нарушение порядка организации или проведения массовых мероприятий.

Александр Новик и Павел Пученя были задержаны 14 сентября, когда пришли в РОВД поддержать ранее задержанных сотрудников по стачечному комитету **Романа Леончика** и вице-председателя БНП **Сергея Черкасова**, которых судили именно в стенах отделения милиции. Сергею Черкасову и Роману Леончику присудили тогда по 15 суток ареста по ст.23.34 КоАП. Столько же получил в тот день бывший член стачкома Четвертого рудоуправления **Павел Разумовский**. По информации стачкома, еще одного его представителя **Сергея Козелько** судили в это же время в Воложине по той же статье КоАП. Наказание – штраф в 5 базовых величин.

Александра Новика и Павла Пученю вскоре отпустили до суда, который 16 сентября и отмерил им упомянутые сроки.

По информации стачкома ОАО «Беларуськалий», утром 17 сентября был задержан член стачкома **Роман Бондаровец**.

Несмотря на репрессии, стачком продолжает действовать. 13 сентября стачечный комитет предприятия заявил, что начинает бессрочную стачку по политическим мотивам.

**Лариса НАСАНОВИЧ.**

НЕЛЬГА МАЎЧАЦЬ!

# Мундзір можна павесіць у шафе. А сумленне дзе павесіш?

Другі месяц Беларусь жыве па-за прававым полем, у краіне перасталі дзейнічаць законы. Такое адчуванне, што ўсіх нас захапіла ў палон злачынная ваенная хунта, мэта якой – прыніжаць, калечыць і запалохваць людзей. Раніцай стала боязна адкрываць інфармацыйныя сайты – кагосьці выкралі невядомыя ў масках і звезлі невядома куды, кагосьці вывалаклі з кватэры, узламаўшы жалезныя дзверы, камусьці паламалі рэбры ў міліцэйскім аўтазаку… У Брэсце супраць мірных пратэстоўцаў задзейнічалі вадамёты, у Мінску сілавікі цягалі за валасы студэнтак, што спявалі “Марсельезу”, у сталічных мікрараёнах сістэматычна наладжваюцца аблавы на звычайных прахожых…

Прычым усё гэта не ўдаецца рабіць патаемна – знятае сведкамі відэа імгненна трапляе ў інтэрнэт. І вось такою – са зграямі гарылападобных істот у чорных масках з дубінкамі на вуліцах – увесь свет бачыць сёння Беларусь. Тых гарыл вывезці куды-небудзь у пампасы, хай бы какосы з пальмаў збівалі, а яны збіваюць мірных людзей. Мірных! Бо ніхто яшчэ і камення не падняў, каб адказаць на гвалт, каб проста самаабараніцца. Людзі выходзяць на мірныя пратэсты таму, што іх галасы на выбарах укралі бессаромныя чыноўнікі разам з халуйскімі членамі выбарчых камісій.

Закон у Беларусі ўжо не як дышаль, які можна павярнуць, куды трэба. Ён стаў гумовай дубінкай, якой дазволена ўсё. “*Часам не да законаў*”, – пачулі служывыя людзі ад свайго галоўнакамандуючага на тэрмінова скліканай нарадзе. Прызнацца, я адразу падумаў, што ў мяне галюцынацыі ад інфармацыйнага перадозу. Ну як такое магчыма? Сядзіць у зале мноства міліцыянераў, пракурораў, суддзяў – нібыта праваахоўнікаў, – а ім кажуць: правы – на паперы, а ў жыцці дзейнічайце, як уздумаецца. Такім чынам галоўны камандзір апраўдаў усе ўжо здейсненыя сілавікамі злачынствы і, так бы мовіць, благаславіў на будучыя.

Пасля благаславення, як і трэба было чакаць, рэпрэсіўная машына запрацавала з новай сілай. О, адчуванне беспакаранасці дае магчымасць і самаму нікчэмнаму носьбіту дубінкі адчуць сябе звышчалавекам – Übermensch’ам: каго хачу, таго малачу, не блытайцеся, маўляў, пад нагамі.

Адзін такі з дубінкай бегаў за людзьмі па сталічным праспекце Пераможцаў. Не дагнаў і са злосці высадзіў шкляныя дзверы ў кавярні, якая стала сховішчам для некалькіх удзельнікаў пратэстных акцый. Тут бы яго і павязаць за разбой і пагром. Ды не атрымалася – самым сапраўдным пагромшчыкам аказаўся… міліцыянер. І не проста міліцыянер, а палкоўнік **Мікалай Карпянкоў** – начальнік Галоўнага ўпраўлення па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй. Як на цвярозы розум, палкоўнік мусіў арыштаваць сам сябе, як герой Юрыя Нікуліна ў фільме “Старыя-разбойнікі”. Цяпер зладзеі ў законе і карупцыянеры могуць спаць спакойна – Карпянкову яны не ў галаве, ён кавярні граміць. Не да законаў…

У Жодзіне чалавек у масцы стаяў на аўтамабільнай паркоўцы. Яму было відавочна сумна – ці то з левай нагі раніцай ўстаў, ці то з жонкай пасварыўся. І ён адрэпеціраваным на баксёрскай грушы ўдарам паклаў на зямлю жанчыну, якая хацела зрабіць некалькі фотакадраў і апынулася ў зоне дасягальнасці яго пудовага кулака. Моўчкі, без тлумачэнняў ці папярэджанняў, прафесійным хукам злева. Абураны натоўп сарваў з “баксёра” маску. Ім аказаўся … старшы ўчастковы маёр **Дзмітрый Мялешка**. Не да законаў…

І гопніцкая выхадка палкоўніка Карпянкова, і хуліганскі накаўт маёра Мялешкі зазнятыя з усіх магчымых ракурсаў. Ёсць пацярпелыя, ёсць сведкі, ёсць відэа. То ці пакараў міністр унутраных спраў **Караеў** сваіх падначаленых? Не, яны працягваюць выконваць свае службовыя абавязкі.

Генерал Караеў распаражываўся з другой прычыны – з яго супрацоўнікаў зрываюць маскі, іх прозвішчы агалошваюцца ў СМІ, парушаецца службовая таямніца ў судах. І ён выступіў з ініцыятывай распрацаваць закон, які гарантаваў бы поўную ананімнасць яго ведамству. А то, ці бачыце, суседзі сталі скоса пазіраць, служыць у міліцыі зрабілася непрэстыжна.

З прэстыжам сапраўды праблема. У сацыяльных сетках сілавікоў (тых, што працуюць на вуліцах) называюць лупавокімі панчохамі. Успомніў наш народ дасціпны ліхія 1990-я, калі бандыты, ідучы на разбой, нацягвалі на твары жаночыя панчохі. Што ж, прагрэс навідавоку – у сучасных балаклавах з’явіліся прорэзі для вачэй.

За месяц пасля прэзідэнцкіх выбараў беларускія праваабаронцы зафіксавалі больш за 600 фактаў непрыхаванага гвалту з боку сілавікоў. На сямі валовых скурах не апісаць, што яны вытваралі ў аўтазаках, у ІЧУ на Акрэсціна, проста на вуліцах. Дзеянні сілавікоў-гвалтаўнікоў задакументаваны, пацярпелыя прадставілі медыцынскія даведкі. Больш за 600 фактаў – імі ўжо ААН зацікавілася. У адказ ад беларускай праваахоўнай сістэмы – ні адной распачатай справы, ні аднаго службовага разбіральніцтва. Не да законаў…

Бо пачні разбірацца і паказальна пакарай тых жа палкоўніка Карпянкова і маёра Мялешку – і заўтра ахвотнікаў махаць дубінкамі днём з агнём давядзецца шукаць. Бо падпертая тымі самымі дубінкамі сістэма пачне завальвацца на бок, як даміно. І тады давядзецца адказваць усім – ад генерала да сяржанта.

А адказваць сілавікам вышэйшага ўзроўню вельмі не хочацца – нават на ветлівыя просьбы грамадзян. “Прадстаўцеся, калі ласка, і прад’явіце службовыя пасведчанні,” – з жалезнай вытрымкай паўтараў мінчанін **Сцяпан Латыпаў** невядомым у масках, засланяючы сабою знакаміты ўжо мурал “Перамен!” на Сморгаўскім тракце. Не прадставіліся, не прад’явілі. Схапілі таго Латыпава і завялі на яго крымінальную (!) справу. А ўвогуле спраў крымінальных (“за непадпарадкаванне, супраціўленне, замахі на жыццё і г.д.”) МУС ініцыявала ажно 43! Нуль і 43. Адчуваеце розніцу? Вось як дбае пра гонар мундзіра генерал Караеў. Што ж, чужыя грахі перад вачыма, а свае – за плячыма. Што да заплямленых генеральскіх, палкоўніцкіх і маёрскіх мундзіраў, то іх ужо і ў хімчыстцы не адмыць.

Паэт і пчаляр, заснавальнік Мядовай прэміі для пісьменнікаў Брэстчыны Мікола Папека на міліцэйскія бясчынствы адгукнуўся жартоўным вершам: *“Міліцыя і я / ў полі біліся – / мыліцы і я / палюбіліся”*. Зняважыць і скалечыць (духоўна і фізічна) і падапхнуць нам пад пахі хісткія мыліцы страху – вось пра што сёння найперш дбае ведамства генерала Караева, які на 600 з гакам заяў ад пацярпелых працадзіў скрозь зубы нешта накшталт прабачэння. Сёння прабачыўся, а ўжо заўтра яго падначаленыя зноў узяліся за сваю жудасную барацьбу-малацьбу. У гонар распачатай імі вайны з уласным народам хоць вазьмі і падсучасні тысячагадовае “Слова пра паход Ігаравы”: *“На Нямізе галовы сцелюць снапамі, гумавымі малоцяць дручкамі…”*

“Мы ўзброены перш за ўсё гуманізмам”, – заявіў палкоўнік Карпянкоў у адным з інтэрв’ю (так, ён стаў медыйнай персонай; гадамі бясслаўна змагаўся з карупцыяй і арганізаванай злачыннасцю, а тут дзверы выбіў і – праславіўся). Гумовы гуманізм? Не ўтрымаецца на ім улада, якой “не да законаў”, чакае яе хуткі канец.

Мундзір пасля працы можна павесіць у шафе. А сумленне дзе павесіш? А калі сынок ці ўнучак сядзе на калені і раскажа сучасны дзіцячы вершык, пачуты ў двары? *“А на нас пускалі газ! / А на вас? – / А ўсіх нас схапіў спецназ! / Ну а вас? – / А для нас быў карагод / ды прыехаў вадамёт. / От!..”* І далей – і пра калючы дрот, і пра аўтазакі. Дзеці ўсё бачаць і ўсё запамінаюць. І мундзір заплямлены рана ці позна пабачаць.

І што тады? Ці не лепш, махнуўшы ў апошні раз дубінкай, праявіўшы, так бы мовіць, гумовы гуманізм, спыніцца і паспрабаваць падумаць пра будучыню – сваю і блізкіх? І ўспомніць, што закон – не дышаль і не дубінка. І згадаць як падказку продкаў народную мудрасць: ад астрогу нікому няма засцярогу...

Ці не лепш было б сілавікам узяць у абарот тых, хто нахабна сфальсіфікаваў вынікі галасавання падчас прэзідэнцкіх выбараў, з-за чаго вось ужо месяц тысячы і тысячы сумленных людзей выходзяць на пратэстныя акцыі?

**Міхась СКОБЛА.**

ЗА РЕШЕТКОЙ

# «Вся одежда на нем висит, он очень сильно похудел…»

*Виталия Шклярова задержали 29 июля в Гомеле, куда он приехал навестить мать. Известный политтехнолог проходил подозреваемым по делу в отношении Сергея Тихановского. Шклярову предъявлено обвинение по части 1 статьи 342 УК РБ (Организация и подготовка действий, грубо нарушающих общественный порядок, либо активное участие в них). По этой статье предусматривается наказание до трех лет лишения свободы.*

*Виталий Шкляров, уроженец Гомеля, жил в США. Он позиционирует себя как американский, немецкий и российский политический консультант, политтехнолог, советник избирательных кампаний Барака Обамы, Берни Сандерса, Ангелы Меркель, Ксении Собчак, Дмитрия Гудкова.*

*Жена Виталия Шклярова Хизер работает в Госдепартаменте США.*



Адвокат Шклярова **Антон Гашинский** рассказал «Народной Воле», что его подзащитному сделали тест на коронавирус. Если результат окажется положительным, его, возможно, переведут на карантин.

– Я позавчера навещал его, был еще один дополнительный допрос, во время которого Шкляров еще раз заявил, что не имеет отношения к каким-либо преступным событиям, – *говорит Гашинский*. – А также сообщил о том, что уже четыре дня не чувствует вкуса и у него пропало обоняние.

**– До этого у него с 8 сентября держалась высокая температура, и вы говорили, что ему не делали тест на коронавирус…**

– После того как эти сведения появилась в средствах массовой информации, к Виталию в понедельник пришли медики, тест сделали, результат еще не известен. Но при этом на карантин его пока не перевели, он как находился, так и находится в общей камере. Единственное – ему разрешили постельный режим…

**– Температура держится?**

– Да, он ее постоянно сбивает. Вообще, Виталий очень сильно похудел, внешне это очень заметно, на нем вся одежда висит.

**– А с питанием как в изоляторе, не жалуется?**

– Мы стараемся передачи передавать. Тюремное питание, сами понимаете, какое… Но он старается есть хотя бы суп, потому что без горячей еды совсем плохо.

**– А что у него с пальцем на ноге? Выяснилось, при каких условиях был получен перелом?**

– Палец заживает. Но Виталий до сих пор не говорит, что произошло. Скрывает. Он сильно боится. Говорит: условия содержания могут ухудшиться до невозможного.

**– А сколько человек с ним вместе в камере?**

– Он в двухместной камере, и там четыре человека. Но у него своя койка. Правда, койка короткая, с нее ноги свисают… Камера узкая, два метра шириной всего, и она длинная, метров пять. В общем, не санаторий.

**– Вы подавали ходатайство об изменении меры пресечения? Он мог бы выйти под залог, например.**

– Постоянно подаем и ходатайства, и жалобы. Но безрезультатно.

**– Какой ваш прогноз, чем закончится это дело? Как я понимаю, до суда еще далеко…**

– Вы смотрели последнее выступление Лукашенко? Вот вставьте в его речь конкретные фамилии задержанных, и будет готовое уголовное дело. Это чтобы понимать масштаб трагедии…

**– У Шклярова есть американский паспорт. Может, как-то по дипломатическим каналам можно решить ситуацию с его освобождением?**

– Как раз этим и занимаемся.

**– В Беларусь Шкляров привез своего сына к бабушке на каникулы. Вы поддерживаете связь с его родственниками?**

– Конечно. Маме Виталия и ребенку, слава Богу, удалось выехать, они сейчас в Киеве.

**– А кто Шклярову здесь передачи носит?**

– Мы, адвокаты, полностью обеспечиваем его быт.

**– Настроение у него, судя по всему, совсем не оптимистическое?**

– Да, сто процентов. Он настроен на долгое сидение…

**Марина КОКТЫШ.**

БЛИЦ-КОММЕНТАРИЙ

# …А значит, режим не собирается меняться

*(Окончание. Начало на 1-й стр.)*

## «Глубинный анализ»: кукловоды и овцы

Ну, а вишенкой на торте речи Лукашенко стал *«глубинный анализ событий»*, когда он описал семь этапов *«сценария по уничтожению нашей страны»*.

Оказывается, США и *«американские сателлиты Польша, Литва, Чехия и, к сожалению, наша Украина»* десять лет *«скрупулезно готовились к нынешнему времени «Ч»*. Короче, все бурные события последних месяцев, приведшие к острейшему политическому кризису, были инспирированы этой мировой закулисой.

Как видим, придворные аналитики дали трактовку, которая гармонирует с мироощущением хозяина. В этой картине мира власть белая и пушистая, а враги замахиваются на нее исключительно в силу своей подлой натуры. Хотя на самом деле Запад после Крыма сделал ставку на прагматичное сотрудничество с режимом, а уж иные политики в Киеве просто молились на Лукашенко.

*«Вспомните, как на примере известного декрета №3 были опробованы методы так называемого социального протеста»*, – вещал сегодня Лукашенко.

Да уж, можно подумать, что этот декрет в подрывных целях подписал Дональд Трамп. На самом деле то возмущение 2017 года было абсолютно стихийным, спонтанным. Даже здешняя оппозиция пристраивалась к протестам по ходу, а уж заокеанские подрывные центры и вовсе не могли предвидеть, что в белорусской вертикали найдутся мудрецы, которые придумают обложить данью безработных.

Такими же белыми нитками пришиты заграничные кукловоды и к другим событиям, упомянутым в «глубинном анализе».

Кстати, в нем Лукашенко упомянул без называния фамилий Тихановского (*«несостоявшегося кандидата-блогера»*) и Виктора Бабарико (*«банкира, под которого создавались крупные интернет-площадки»*). Давно ли вождь и пропаганда утверждали, что это московские креатуры? Теперь же они рисуются фигурами западного заговора.

Вот вам и вся аналитика. **На самом деле это убогая старая схема всех диктатур, когда, чтобы соскочить с обсуждения внутренних проблем, признания ошибок, начинают надувать миф о внешнем заговоре.** Причем, как видим, в зависимости от конъюнктуры кукловоды в этой схеме легко меняются. Вчера была Россия, сегодня – Вашингтон и его сателлиты.

Да, и если США плели заговор десять лет, то почему доблестные спецслужбы, аналитики в погонах это дело прошляпили? Почему вплоть до 9 августа не ловили мышей, а ловили вагнеровцев? Клали на стол шефу доклады о руке Москвы, вещали о неких лагерях боевиков под Псковом и Невелем. Получается, возводили напраслину на «старшего брата», который оказался спасителем?

Я уж не говорю о том, что в этой схеме «семи этапов» априори нет признания народа как субъекта. Белорусы предстают некими безвольными, безмозглыми существами. Овцами, как однажды изящно выразился народный вождь.

В этой схеме нет и намека на истинные причины народного возмущения: несменяемая власть, наглые фальсификации, зверства силовиков и пр. А значит, режим и не собирается меняться. Он думает лишь о том, как подавить сопротивление.

## В параллельной реальности

С такой аналитикой от окружения архитектор персоналистской системы, который за 26 лет правления и так оторвался от действительности, будет все глубже уходить в параллельную реальность.

В сухом остатке: Лукашенко намерен перемолоть протесты, устроить имитацию диалога со смотрящей в рот публикой, протащить свой вариант Конституции (который, возможно, лишь отдалит выборы). И никаких намеков на уход или хотя бы транзит власти.

Интересно, устроит ли это Москву, которой будет все проблематичнее вести дела со столь токсичным партнером?

Ну, и самое главное – устроит ли это тех белорусов, которые за последние месяцы сформировались в костяк политической нации?

*(Naviny.media.)*

ХАЧУ СКАЗАЦЬ…

# «Канстытуцыйная рэформа» Лукашэнкі – нацыянальная небяспека!

Пытанне канстытуцыйнай рэформы, пра якую ўжо даўно гаворыць Лукашэнка, стала ключавым падчас сустрэчы з Пуціным 14 верасня ў Сочы. Нават 1,5 мільярда долараў расійскага крэдыту адступілі на другі план. Як стала вядома з нямецкіх СМІ, пра «канстытуцыйную рэформу» як кампраміс і пачатак дыялогу Лукашэнкі з народам Пуцін будзе гаварыць з Берлінам і Парыжам праз некалькі дзён, магчыма, да відэаканферэнцыі міністраў замежных спраў Еўрасаюза 24 верасня. На гэты раз міністры збіраюцца прапаноўваць канкрэтныя меры для развязвання беларускага крызісу.

У мяне складваецца ўражанне, што ў некаторых палітыкаў склаўся няпісаны кансэнсус: можна пакідаць Беларусь па-за еўрапейскай схематыкай, а феномен Лукашэнкі прызнаць чыста беларускім казусам, дзеля лепшай камунікацыі для эвалюцыйнага выхаду з палітычнага крызісу не ўключаць яго ў санкцыйны спіс, а магчыма, нават пры пасрэдніцтве не толькі Пуціна, а і каго-небудзь лагодна-мудрага, напрыклад серба, і каго-небудзь з краіны, якая мае ладна інвестыцый у Беларусі, сканцэнтраваць увагу на зменах выбарчага заканадаўства ў фармаце канстытуцыйнай рэформы.

Мой прагноз з улікам папярэдніх эпізадычных выказванняў Лукашэнкі небеспадстаўна выглядае змрочна. У новым варыянце лукашэнкаўскай Канстытуцыі можа з’явіцца раздзел пра змешаны прынцып выбараў: аднамандатныя акругі і партыйныя спісы.

Увогуле, у краінах, якія гістарычна развіваюцца па прынцыпах цывілізаванага капіталізму, партыі складаюцца дзесяцігоддзямі. У нас партыйнае будаўніцтва будзе весціся як бы і па-еўрапейску, нават з удзелам замежных экспертаў, але, натуральна, паскоранымі тэмпамі.

Уявіце сабе: па камандзе Лукашэнкі рэгіструецца партыя з назвай кшталту “За Беларусь!”, для рэгістрацыі колькасцю тысяч на 50–75. Потым можа дарасці да 100.000 і болей. Туды пабягуць былыя дэпутаты і ўсялякае начальства, разбаўленыя рабочымі і г.д.

У раздзеле “Партыі і грамадскія арганізацыі” ў новай Канстытуцыі па аналогіі з Захадам можа быць прадугледжана акрамя ахвяраванняў у партыйны фонд *грамадзянамі і арганізацыямі Беларусі* дзяржаўная падтрымка з бюджэту з разліку, напрыклад, адна базавая велічыня ў год на аднаго члена партыі.

Другая “моцная” партыя будзе выразна прарасійская. Але будзе мець беларускую назву тыпу “Братэрства”, фінансавацца з беларускай дзяржавы за кошт падаткаў грамадзян і за кошт ахвяраванняў беларускіх партнёраў расійскіх алігархаў.

Для поўнай гарантыі прарасійскасці і беларускага самаўладдзя можна прадугледзець дадаткова стварэнне органа кшталту казахстанскага ці расійскага дзяржсавета, дзе будзе старшынстваваць “несмяротны” аятала-елбасы-бацька.

Пры такім раскладзе можна абмяжоўваць і паўнамоцтвы прэзідэнта. Такі парламент зробіць усё, каб забетаніраваць навечна расійска-беларускую “братэрскую дружбу”.

І тут пераможа той, у каго больш грошай. Ці ж зможа параўнацца партыя Паўла Севярынца, якую нават зарэгіструюць, з фінансавымі магчымасцямі прарасійскай партыі буйнога і сярэдняга бізнесу? Дапусцім, партыя з нацыянальна-дэмакратычнай афарбоўкай, якую ўзначаліць лідар кшталту Паўла Латушкі ў суперніцтве з Ганнай Канапацкай (яна абяцае БЧБ сцяг і «Пагоню»), не зможа канкураваць з пераніцаванай «Белай Руссю», куды збяжыцца наменклатурны народ і якая будзе на законных падставах атрымліваць толькі з бюджэту мільён рублёў з разліку адной базавай велічыні на аднаго члена партыі плюс ахвяраванні нябедных фізічных і юрыдычных асоб.

Канстытуцыйная рэформа Лукашэнкі можа стаць яшчэ адной нацыянальнай небяспекай. Новая Канстытуцыя павінна прымацца без Лукашэнкі, пры новым прэзідэнце. І ў ёй павінны быць улічаны інтарэсы ўсіх груп насельніцтва.

**Пётр САДОЎСКІ,**
**дэпутат Вярхоўнага Савета 12-га склікання, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь у Германіі (3 чэрвеня 1992-га па 28 кастрычніка 1994 года).**

ИЗ ПЕРВЫХ УСТ

# Денис РУТЕНКО: «От спорта я полностью отошел…»

*Известный белорусский гандболист рассказал «Народной Воле» о своей гражданской позиции и о том, почему подписал письмо против насилия и беззакония в стране.*

В этом году **Денис РУТЕНКО** – младший брат еще одного звездного гандболиста Сергея Рутенко – завершил карьеру. За национальную сборную он провел 126 матчей и забросил 306 голов (по обоим показателям входит в десятку лучших гандболистов в истории Беларуси).

Но Денис Рутенко проявил себя не только в спорте. Он из тех, кто не прячет голову в песок, и в жизни…

– Как я мог не поставить подпись под письмом, когда видел, что происходит в стране? – говорит Денис. – Я подписывался против неоправданной жестокости, против обмана. Не хочу, чтобы людям открыто и нагло врали в глаза.

**– Политикой раньше интересовались?**

– Я, как и многие другие люди, до этих выборов был абсолютно аполитичным человеком. Более того! Всегда говорил (и сейчас этого не скрываю), что поддерживал многие решения властей и президента.

Но еще в предвыборный период, как известно, арестовали одного из кандидатов на президентский пост Сергея Тихановского, по телевидению показали какие-то непонятные деньги, которые якобы нашли у него… Были и другие моменты и действия властей, которые мне не только не понравились, но просто разочаровали. И я решил: вряд ли я буду сейчас голосовать за Александра Лукашенко.

А то, что произошло после 9 августа, это вообще ни в какие ворота!.. Так что спасибо властям – разбудили во мне гражданина с позицией, подтолкнули в политику.

**– О событиях после выборов узнавали из интернета или сами были их участником?**

– Лично я не пострадал, но знакомые рассказывали, что имели «счастье» пообщаться с ОМОНом, когда возвращались домой с работы. Просто оказались не в тот час и не в том месте. Когда человек идет по улице, к нему подбегают и начинают бить – это нормально? Кого-то забирали в изолятор, кого-то избили и бросили…

Я не мог не доверять этим людям и смотреть на то, что происходит. Было очень больно. Читал новости в независимых СМИ, пытался смотреть государственное телевидение, чтобы, как говорят, была полная картина мира.

Но честно скажу: после этого смотреть БТ я, наверное, уже никогда не смогу. Организм больше не примет картинку после той порции лжи, что я увидел и услышал. И это при том, что я всегда старался объективно разобраться в любой ситуации. Не хочу сказать, что в телеграм-каналах всегда пишут правду, но там хотя бы можно посмотреть видео, которые записывали на телефоны люди, и самому сделать какие-то выводы. Но вранье государственного телевидения, конечно, зашкаливало.

**– А вот власти, наоборот, считают, что сообщения о пытках и избиениях – это в своем большинстве фейковые вбросы, чтобы повлиять на сознание людей…**

– Глупости! Это ужасно, когда тебе нагло врут в глаза! Когда в советские времена у людей были только радио и телевизор, в котором были три



программы, то, конечно, манипулировать сознанием людей было проще.

А сейчас у каждого телефон, практически каждый видит и слышит от очевидцев то, что происходит на самом деле. И когда публично заявляют, что люди, извините, попы мазали синей краской, а затем показывали как результат избиения, то это уже, знаете, верх цинизма.

И то, что журналистов за их работу судят и отправляют на «сутки», – это тоже в голове не укладывается. А в это время министр внутренних дел Юрий Караев заявляет, что недопустимо трогать журналистов. И снова – полный цинизм, потому что уже на следующий день после заявления журналистов снова прессовали.

**– Под этот каток, кстати, попадают и спортивные журналисты. Серега Щурко – один из последних, кто получил «сутки»…**

– Ну да, Сергей же не работает на Russia Today. Человек он активный, имеет свою позицию, зачем такой на свободе?

У нас в стране уже вообще доходит до того, что в своем дворе запрещают собираться. Я, например, живу в жилом квартале «Каскад», вместе с соседями выходили на улицу, общались. Оказывается, нельзя, если больше 50 человек в одном месте! Мне что, надо заявку в Мингорисполком подавать, чтобы с соседями побеседовать? Это же маразм!

Но самое ужасное, что ты понимаешь: с этим маразмом пока ничего невозможно сделать. Подпись свою поставил под обращением спортивной общественности – это пока все, что могу. Хотелось показать, что я на стороне правды, а не маразма.

**– Так некоторые спортсмены и подпись побоялись поставить, хотя, наверное, всё понимают. Молчат многие гандболисты, футболисты, хоккеисты…**

– Возможно, некоторые и на самом деле искренне верят в провластную версию развития событий, «внешний заговор» и так далее. Но мне все-таки кажется, что большинство спортсменов – люди разумные, а поэтому всё видят и понимают.

Но я не могу за всех сказать, почему они молчат. Хотя в такой ситуации, думаю, нужно было бы хоть как-то обозначить свою позицию. Потому что те, кого задерживали и избивали, – это белорусы, настоящие или потенциальные болельщики. А спортсмены всегда должны поддерживать своих болельщиков.

Перед началом сезона или в трудные минуты клубы всегда собирают своих фанатов и говорят: «Сегодня нам нужна ваша поддержка. Вместе мы выстоим!» А сегодня многим любителям спорта нужна такая поддержка.

**– Насколько известно, ваш брат, который после ухода из спорта, занимается бизнесом, тоже промолчал по поводу вышеупомянутых событий. Или я что-то упустил?**

– Мы много общались по этому поводу, но у него есть свое мнение.

**– И что говорит?**

– О том, что говорит Сергей, лучше спросить у него.

**– Если отвлечься от политики… После ухода из большого спорта вы уже определились с будущим местом работы?**

– Будем считать, что на данный момент я пока безработный, хотя варианты есть всегда. Одно могу сказать – от спорта я полностью отошел.

**Алесь СИВЫЙ.**

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

з Алесем СІВЫМ

# Ад перастаноўкі месцаў складнікаў сума не мяняецца

Апошнімі днямі ў беларускім хакейным сямействе суцэльны кадравы перагрус. На гэтым тыдні нарэшце “засвяціўся” былы міністр унутраных спраў і кіраўнік Назіральнага савета хакейнага клуба “Дынама-Мінск” Ігар Шуневіч.

Калі Шуневіч быў на пасадзе міністра, яго прозвішча было ўвесь час на слыху. То ён у форме НКУС на публіцы з’явіцца, то прадстаўнікоў секс-меншасцяў “дзіравымі” назаве, то скульптуру гарадавога ля Міністэрства ўнутраных спраў ледзь не прыраўняе да святых. Праўда, у параўнанні з тым, што твораць сілавікі сёння, дзеянні міліцыі некалькі гадоў таму і заявы самога Шуневіча можна назваць дзіцячымі забавамі.

З чэрвеня мінулага года, калі Ігар Шуневіч пайшоў у адстаўку, пра яго не было практычна нічога чуваць. І вось зараз – новая пасада.

Справа ў тым, што былы генеральны дырэктар хакейнага “Дынама” Дзмітрый Баскаў стаў не толькі старшынёй Федэрацыі хакея Беларусі, але і ўзначаліў Назіральную раду хакейнага клуба “Дынама-Мінск”. А Шуневіча адправілі на месца Баскава.

Як адзначыў сталічны клуб, *“прызначэнне Ігара Шуневіча ў сітуацыі, якая склалася, з’яўляецца найбольш лагічным крокам, паколькі менавіта пры ім была вызначана новая філасофія клуба, накіраваная на выхаванне новага пакалення лідараў “Дынама”*.

Да слова, менавіта ў той час, калі Шуневіч быў кіраўніком Назіральнай рады сталічнага клуба, сённяшняга трэнера “Зуброў” Крэйга Вудкрафта ледзь не са скандалам вытурылі з Беларусі.

*“Перад Алімпіядай Крэйг Вудкрафт у чарговы раз заявіў, што яго звальненне з клуба стала для яго нечаканасцю,* – распавядаў у той час генеральны дырэктар “Дынама” **Анатоль Курылец**. – *Я афіцэр і кажу шчыра: Крэйг вёў перамовы са швейцарцамі ўжо са снежня, пачаўшы іх на Кубку Шпенглера. Гэта мы даведаліся пра яго двайныя гульні толькі ў маі.*

*Пры гэтым ён выставіў умовы новага кантракта – амаль у два разы больш, чым адразу. Далей настойваў на дзевяці легіянерах ў складзе. І тое, што ён зараз распавядае, які ён добры, – паверце, гэта далёка не так. Яшчэ адзін яскравы прыклад: ні Дуаер, ні Покавіч (былыя трэнеры “Дынама”) ніколі не папрасілі б аплаціць набыты ў трэнерскую падсвечнік коштам у 2 рублі. А Вудкрафт з такой просьбай прыходзіў”.*

Сёння, канадцу, які праз два гады пасля адстаўкі зноў быў запрошаны на працу ў Мінск, відаць, ужо не ўзгадваюць падсвечнік за 2 рублі, тым больш што праца Крэйга Вудкрафта бачна ўсім – справы каманды пайшлі ўверх.

А вось кіраўніцтва, як бачым, тасуецца, ніяк яны не ўсядуцца. Праўда, як кажуць, ад перастаноўкі месцаў складнікаў сума не мяняецца. Даіць дзяржаўны бюджэт будуць і так, і гэтак.

ПАЗІЦЫЯ

# «Кім выхаваны гэтыя людзі, што гатовы хлусіць кожны дзень?»

*Вядомая беларуская мотападарожніца Кацярына Дубаневіч выказала сваё стаўленне да таго, што адбываецца ў краіне.*



*Кацярына падарожнічае на матацыкле по ўсім свеце ўжо даўно, шмат якія краіны пабачыла, і ёй ёсць з чым параўнаць тое, што зараз адбываецца ў Беларусі.*

“Некаторыя мяне папракаюць: “не лезь у палітыку!”, “цябе ўвесь свет чытае”, “майданутая”, – *кажа Кацярына*. – Такое і многае іншае я чытаю на працягу апошняга месяца ў сябе ў сацыяльных сетках. 35 гадоў я ніякім чынам не датычылася палітычных тэм і з задавальненнем не датычылася б іх яшчэ столькі ж. Пісаць пра новыя дарогі, прыгоды, дзяліцца радасцю адкрыццяў і фотаздымкамі выдатных месцаў нашай планеты мне падабаецца значна больш.

Але я не магу рабіць выгляд, што ўсё добра, калі гэта не так. Маўчаць і публікаваць глянцавыя малюначкі азначае прызнаць, што нармальна запіхваць 16-гадоваму хлопцу ў рот дубінку, каб ён крычаў, што любіць АМАП.

Што нармальна збіваць і гвалтаваць маладых хлопцаў.

Нармальна, калі людзі ў масках і без апазнавальных знакаў ламаюць дзверы і выносяць маёмасць, разбіваюць шкло ў машынах і прабіваюць шыны матацыклаў.

Нармальна праводзіць суды са сведкамі ў масках, якія блытаюцца ў паказаннях і адмаўляюцца назваць свае імёны.

Нармальна біць дзяўчынак з бел-чырвонымі касічкамі, а хлопцам нажамі адразаць валасы.

Нармальна хлусіць, падрабляць дакументы і парушаць усе артыкулы Канстытуцыі.

Але я не магу зрабіць выгляд, што мяне гэта не датычыцца, калі ў турме і пад ударамі дубінак ўжо пабывалі дзясяткі сяброў, калі дзяўчынкі з “хуткай” плачуць, таму што такіх зверстваў яшчэ ніколі не бачылі ў жыцці. Калі страшна выходзіць на вуліцу, але яшчэ страшней – не выйсці і сядзець дома”.

*Кацярына Дубаневіч дадае:* “Я зараз цалкам магу зразумець рабаўніка ў Калумбіі, які пагражаў мне нажом, але хацеў проста грошай і фотаапарат. Ён не ад добрага жыцця гэта робіць. Але я не магу зразумець супрацоўніка сілавых структур, які здзекуецца са свайго ж народа і пры гэтым бачыць, што гэта не злачынцы, а студэнты, маладыя людзі, бабулі і дзядулі, яго суседзі і сябры”.

“Як такая мадэль паводзінаў магла стаць нормай? – *задаецца пытаннем мотападарожніца.* – А тэлевізійшчыкі і дзяржаўныя журналісты? Кім выхаваны гэтыя людзі, што гатовы так бязбожна хлусіць кожны дзень, настройваючы людзей адзін супраць аднаго?

Мы вучыліся ў адных школах, універсітэтах, чыталі адны кнігі, у якіх дабро заўсёды перамагае зло, дзе гонар і сумленне – неадъемныя рысы характару годнага чалавека. Чаму ўсё пайшло не так? Як можна перавярнуць любое слова, дзеянне ў нахабную хлусню?

Я не буду прасіць прабачэння за тое, што зараз мае публікацыі будуць не толькі пра падарожжы. Я люблю ўвесь свет, маіх сяброў па ўсім зямным шары, веру ў дабрыню і шчырасць і каханне. Але цяпер мая родная краіна, мая сям’я і сябры напалоханы, знявечаны, але не зламаны. І мы верым, што выстаім супраць самавольства і несправядлівасці. А потым будуць займальныя падарожжы, апавяданні і зусім новае жыццё. Жыве Беларусь!”

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ШАШКІ

## Бліц-конкурс

Прапануем узяць удзел у чарговым бліц-конкурсе. Знайдзіце выйгрыш за белых у наступных пазіцыях нашых пастаянных аўтараў.

Аўтар №№1–2 – **Анатоль Баланюк**.
№1 **Белыя**: e1, d2, f2, f4, a7 (5).
**Чорныя**: b2, b4, d6, h6, b8 (5).
№2 **Белыя**: e1, g1, d2, e3 (4).
**Чорныя**: a3, b4, h4 (3).
№№3–4 даслаў **Генадзь Андрэеў**.
№3 **Белыя**: c7, e3, e5, f6, g5 (5).
**Чорныя**: b4, c3, c5, d8, h8 (5).
№4 **Белыя**: простыя b6, c7, d2, d6, e3, f2, g5, g7, дамка g1 (9).
**Чорныя**: простыя a5, b2, b8, d8, e5, f8, h6, дамка f4, (8).
Аўтарства №5 належыць **Ншану Алывердзяну**.
**Белыя**: c1, e3, g3, b4, a5, g5, a7 (7).
**Чорныя**: b2, a3, c5, e5, d6, e7, g7, b8, f8 (9).

Наступныя праблемы армянскага кампазітара рашыце самастойна па-за конкурсам.



№6 (гл.дыяграму) **Белыя**: e1, g3, g5, b6, f6, a7 (6).
**Чорныя**: d2, f2, c3, d4, c5, d8 (6).
№7 **Белыя**: e1, f2, e3, f4, e5, d6 (6).
**Чорныя**: b4, g5, h6, d8, f8, h8 (6).

## Вынікі чэмпіянату

Падведзены вынікі 3-га чэмпіянату свету па складанні эцюдаў у міжнародныя шашкі. Вынікі такія: 1-е месца – **Іаган Басціянет** (Галандыя); 2-е месца – **Міхаіл Цветаў** (Ізраіль); 3-е месца – **Аляксандр Маісееў** (ЗША). Лепшы вынік сярод беларускіх эцюдыстаў паказаў **Віктар Шульга** – у яго 9-е месца.

## Міжнародныя кампазіцыі

На дыяграме неверагодная дамачная праблема **Аляксандра Маісеева**, якую ён даслаў на конкурс “Беларусь-2020”.



№8 **Белыя**: простыя 11, 19, 20, 24, 29, 30, 45, 49, дамкі 34, 47 (10).
**Чорныя**: простыя 15, 40, 44, дамкі 8, 16, 50 (6)
13(2**A**), 49-43, 13, 38, 34-43 x. **A**(19), 13(35**B**), 30(15x33**C**), 24 x. **B**(33), 24, 38, 40, 49 x. **C**(35x33), 24 x.
Чатыры (!) розныя замыканні чорных. Цудоўна!
№9 (**Генадзь Андрэеў) Белыя**: 13, 19, 21, 23, 30, 31, 32 (7).
**Чорныя**: 2, 8, 12, 17, 20, 24, 35, 40 (8).
18, 7, 2, 15, 6(45), 50 x.

Для самастойнага рашэння прапануем міжнародныя пазіцыі **Валерыя Кручкова**.
№10 **Белыя**: 18, 19, 24, 27, 28, 40, 50 (7).
**Чорныя**: 7, 9, 17, 35, 39, 41, 43 (7).
№11 **Белыя**: 11, 12, 13, 18, 31, 34, 43, 50 (8).
**Чорныя**: 1, 5, 10, 20, 25, 32, 39, 41 (8).
№12 **Белыя**: 18, 22, 23, 28, 29, 31, 37, 40, 42, 44, 46 (11).
**Чорныя**: 2, 8, 9, 11, 20, 21, 30, 32, 34, 36, 45 (11).

## Супаставім рашэнні

“Народная Воля” за 30 чэрвеня 2020 года.
**№1** – d6, d4(e5), g3(b6**A**), c1, e3x. **A**(d2), ab8,a7x.
**№2** – d6, f6, b6, d4, e7, h4 x.
**№3** – d2, h4, f6, d4, e7, g1x.
**№4** – b4, c7(b6), c7, bc5, c5, g3, e7(e3), d8(d2), e7, e1x.
**№5** – d6(ce5), d6, e3(g3), f8(g1), e3, h2, x.
Пераможцам стаў **Уладзімір Бандарык.**
**№6** – c7, c7, g7, d8, c3x.
**№7** – e7, e7, c3, c5, e1 x.
**№8** – cd6(e7), d6(ee3), f4, f4x.

Дакладныя адказы даслалі: **Аляксандра Камінская** (Вілейка), **Юрый Голікаў** (Цвер, Расія), **Эдуард Дамброўскі, Віталь Варушыла, Іван Наўроцкі** (Мінск), **Уладзімір Бандарык** (в. Лугавая Слабада Мінскага раёна), **Уладзімір Валчкоў** (Маладзечна), **Леанід Жыхар, Фёдар Карпей** (Мядзел), **Ігар Ананіч, Павел Каролік** (Гродна), **Уладзімір Панько** (Камянец), **Сяргей Бурко** (Орша), **Анатолій Чумакоў** (Светлагорск), **Уладзімір Барысёнак** (Віцебская вобл.).

Дзякуем за лісты і спадзяёмся на вашу далейшую актыўнасць.

Свае лісты дасылайце на адрас: ***220030 Мінск, вул. Энгельса, 34а, “Шашкі”*** або на электронны адрас рэдакцыі: ***shulga.checkers@gmail.com***.

**Віктар ШУЛЬГА, міжнародны майстар спорту.**

МАЗАІКА

## На чатыры гады…

*Беларускую штурхальніцу ядра **Вікторыю Колб** дыскваліфікавалі на 4 гады за ўжыванне допінгу.*

У пробе 26-гадовай спартсменкі выявілі лігандрол. Як паведамляе Нацыянальнае антыдопінгавае агенцтва, ануляваны ўсе вынікі, паказаныя Колб з 21 лютага бягучага года. Тэрмін дыскваліфікацыі скончыцца напрыканцы сакавіка 2024 года.

Вікторыя Колб адзначылася перамогай на маладзёжным чэмпіянаце Еўропы ў 2015 годзе.

## Без фанатаў

*Футбольныя фанаты салігорскага “Шахцёра” выступілі з заявай: яны спыняюць актыўную падтрымку каманды на стадыёнах.*

Прыхільнікі “Шахцёра” заявілі, што занепакоены сітуацыяй у краіне. Іх турбуе, што за смерці і збіццё людзей ніхто не нясе адказнасці, суды плююць на Канстытуцыю і законы, а чалавечае жыццё абясцэньваецца. Таму фанаты спыняюць актыўную падтрымку каманды.

Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info
Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ


Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Отпечатано в АО «Прайм Принт Москва», 141707,МО, г.Долгопрудный, Лихачевский пр-д, 5В. Падпісана ў друк 17.09.2020 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 22 040 экз. Заказ № 2443.